© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша свабода

№65 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 КАСТРЫЧНІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Рэгіёны выйшлі шчыльнымі радамі

Рыгор БУЯН

**Адразу ў 22 буйнейшых гарадах Беларусі аб'яднаная апазіцыя правяла 8 кастрычніка масавыя акцыі «Байкот-2000» супраць выбараў у палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка. У некаторых гарадах такіх мерапрыемстваў не было ўжо 6 гадоў.**

Мітынгі – як санкцыяваныя, так і несанкцыяваныя – праходзілі даволі мірна. Арганізатары акцыяў пратэсту тлумачаць гэты факт прысутнасцю ледзь не ва ўсіх рэгіёнах прадстаўнікоў кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ. Між тым, без затрыманняў не абышлося.

Былі затрыманыя 11 чалавек, на якіх складзеныя пратаколы за адміністратыўныя правапарушэнні – за заклікі да байкоту і арганізацыю несанкцыяваных акцыяў. Аднак супрацоўнікі праваапарадку загадзя папярэдзілі, што яны будуць выклікаць арганізатараў выступленняў у райаддзелы міліцыі 9-га і 10-га кастрычніка. Так што колькасць пацярпелых можа яшчэ рэзка павялічыцца.

Самыя масавыя мітынгі апазіцыя правяла ў Брэсце (дазволены) і ў Гародні (несанкцыяваны). На кожны з іх прыйшло па 2 тысячы чалавек. У іншых гарадах колькасць маніфестантаў вагалася ад 50 да 700 чалавек. Самым жа «насычаным», па характарыстыцы лідэра Беларускага Народнага Фронту Вінцука Вячоркі, стаўся мітынг у Жодзіне, які сабраў да 300 чалавек.

Старшыня гарадской арганізацыі БНФ у Жодзіне Аляксей Лапіцкі распавёў журналістам, што ў ноч напярэдадні акцыі невядомыя павыбівалі шыбы ў штаб-кватэры БНФ, неадназова раздаваліся тэлефонныя званкі ад невядомых асобаў, якія брудна лаяліся і запалохвалі людзей.

Раніцай, засцерагаючыся ад магчымых рэпрэсіяў, першымі да месца збору пайшла моладзь, запрошаныя, і толькі потым – арганізатары. Мітынг пратэсту пачаўся ў прызначаны час – 13.00, хаця міліцыянты і запалохвалі ўдзельнікаў акцыі масавымі затрыманнямі, а таксама не дазволілі падключыць гукаўзмацняльную апаратуру. Выручыў акцыю прывезены з Мінска мегафон.


Гродна, вуліца Савецкая. Марш Свабоды 8 кастрычніка

Фота Ул. ШПАПАКА

Акцыя адбывалася ў прысутнасці вялікай колькасці пераапранутых міліцыянтаў і членаў незарэгістраванай у Беларусі прафашысцкай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ), якія пачуваліся там вельмі свабодна. Праз гадзіну пасля пачатку мітынгу РНЕшнікі справакавалі сутыкненні з дэманстрантамі. Яны разрывалі на кавалкі ўлёткі, палілі налепкі, а пасля збілі фотажурналіста, які спрабаваў зняць гэтую акцыю. І калі міліцыянты ўпусцілі аднаго з «байцоў» РНЕ, мітынгоўшчыкі не вытрымалі...

У аблозе 8 кастрычніка знаходзілася і штаб-кватэра БНФ у Магілёве. Пад час сустрэчы прадстаўнікоў аб'яднанай апазіцыі з выбаршчыкамі, на якую прыйшло каля 500 чалавек, міліцыянты абшуквалі ўсіх, хто выходзіў са штаб-кватэры. Яны паспрабавалі затрымаць арганізатара сустрэчы Віталя Макаранку, а пасля самой сустрэчы схапілі Міколу Сысько, які нёс гукаўзмацняльнік.

Затрыманні мітынгоўшчыкаў адбыліся ў Салігорску (2 чалавекі), Віцебску (7 чалавек), Рагачове (2 чалавекі).

Акцыі пратэсту праходзілі на фоне югаслаўскіх падзеяў. Сімвалічнаму лозунгу «Сёння – Мілошавіч, заўтра – Лукашэнка», які нарадзіўся на мітынгу ў Гродне, В.Вячорка напрарочыў доўгае жыццё.

Арганізатары акцыяў пратэсту задаволеныя вынікамі рэгіянальнага «Маршу Свабоды». Па сцвярджэнні намесніка старшыні БНФ Віктара Івашкевіча, у правінцыі такіх масавых акцыяў «не адбывалася з 1990 года». Вінцук Вячорка ацэньвае рэгіянальны «Марш Свабоды» як паспяховы, таму што «адбыўся беспрэцэдэнтны геаграфічны ахоп» – усюды, дзе акцыі планаваліся, яны прайшлі. І гэта пры тым, што менавіта ў рэгіёнах улада не цэрпіць ніякага іншадумства і спрабуе максімальна ўдушыць апазіцыйныя настроі.

Са сваім калегам згодны і старшыня АГП Анатоль Лябедзька, які заявіў пра апазіцыйны прарыў у правінцыі, таму што дагэтуль «усе рэгіёны, за выключэннем Гродна, былі выключаныя з палітычнага жыцця».

З набытага 8 кастрычніка вопыту апазіцыя выйшла на неабходнасць арганізоўваць трохступенчатыя акцыі пратэсту – спачатку акцыя праходзіць у Мінску, праз тыдзень эстафету пераймаюць гарады з 50-тысячным насельніцтвам, а пасля – раённыя гарады. У планах апазіцыі ўжо ёсць намер правесці першую трохступенчатую акцыю пратэсту сацыяльна-эканамічнага характару ў лістападзе. ■

# Ганс-Георг Вік выдаў тайну

Павел КРЫЛЬСКІ

**24-27 верасня ў Беластоку прайшла польска-нямецка-беларуская канферэнцыя, прысвечаная будучыні аб'яднанай Еўропы. Канферэнцыя арганізавалася Польскай Экуменічнай Радай, евангелічнай царквой Гэсіі, Бюро па справах Місіі й Экуменіі ды Цэнтрам Праваслаўнай Культуры ў Беластоку. У канферэнцыі прымалі ўдзел 30 асобаў – грамадскіх і рэлігійных дзеячаў з Польшчы, Беларусі і Германіі.**

Адным з удзельнікаў канферэнцыі быў амбасадар АБСЕ ў Беларусі Ганс-Георг Вік. Вялікае здзіўленне, асабліва сярод беларусаў, выклікала выказванне амбасадара Віка, што: «АБСЕ цягам апошніх шасці гадоў вяла палітыку далучэння Беларусі да Расіі, якая ўступіла на шлях дэмакратызацыі, каб такім чынам дэмакратызаваць Беларусь» – падала ў сваім матэрыяле беларуская рэдакцыя польскага радыё.

Гэткая сенсацыйная па ўсіх параметрах заява выклікала абурэнне і нязгоду ў беларускіх удзельнікаў канферэнцыі. Пачалася палеміка паміж беларускімі ўдзельнікамі і сп. Вікам, падчас якой высветлілася, што Еўропа, у тым ліку і Германія, залежыць ад расійскай нафты і газу. Прычым паступова інтарэсы Еўропы ў вуснах сп. Віка ператварыліся ў інтарэсы Германіі.

Нас у гэтым кантэксце цікавіць усё ж больш сп. Вік, які ёсць афіцыйны прадстаўнік АБСЕ ў Беларусі, і ад яго словаў і дзеянняў многае залежыць у нашай краіне.

Гаворыць Валянціна Трыгубовіч, удзельніца канферэнцыі:

«Еўропа, так. Але для яго Еўропа – гэта ўсё-такі Германія, бо ўсе іншыя краіны не існавалі ў ягонай размове. Інтарэсы Германіі былі, колькі існуе гэтая краіна, канцэнтраваныя на Расію. Расія вялікая па тэрыторыі краіна, вялікая па колькасці людзей – гэта бязмежны рынак. Мала таго, з Расіі ідзе нафта і газ у Нямеччыну. І гэта вельмі патрэбна Германіі. Я разумею гэтую эканамічную сітуацыю, бо кожная краіна мае свае інтарэсы, і кожная краіна спрабуе іх рэалізаваць, але якім коштам? Уся размова са сп. Вікам, калектыўная размова, не мая персанальная, была пра тое, што Нямеччына, каб захаваць свае добрыя дачыненні з Расіяй, каб выкарыстаць у сваіх інтарэсах патрэбу ў нафце і газе, абсалютна ігнаруе Беларусь як краіну, як народ. ▶

Заканчэнне на стар.3

## НАВІНЫ

■ **14 кастрычніка, за дзень да выбараў у палату прадстаўнікоў, у Мінску мусіць адбыцца шэсце па цэнтральным праспекце горада з мітынгам на плошчы Незалежнасці.** Заяўка на збор у 15.00 на пляцоўцы каля Акадэміі навук і шэсце да галоўнага пляцу Беларусі ўжо пададзеная ў Мінгарвыканкам. Пры гэтым арганізатары няўдалага «Маршу Свабоды-3» запэўнілі журналістаў, што шэсце па праспекце Ф.Скарыны будзе праведзенае ў любым выпадку.

■ **У Беларусі 174 тысячы чалавек стаіць на дыспансерным уліку хворых на алкагалізм.** Спажыванне ж алкагольных напояў на душу насельніцтва складае 11 літраў, тады як, паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, мяжа, вышэй якой пачынаецца выраджэнне нацыі, вызначаецца 8 літрамі. У Расіі гэтая лічба роўная 9 літрам, а ва Украіне – 4,5 літра.

■ **Новая газета, якую зусім нядаўна пачалі выдаваць школьнікі адной са школаў Зэльвы, ужо зазнала ціску мясцовых уладаў.** Намесніца старшыні райвыканкама Алена Коўш правяла гутарку з галоўным рэдактарам «Зэльвяначкі», падчас якой ушчувала, «чаму гэта толькі ў вашай школе дадумаліся да такога, а ў астатніх – не», а напрыканцы пагразіла, што газетай «зоймуцца органы».

■ **Паводле інфармацыі міністэрства ўнутраных справаў, у краіне назіраецца павелічэнне колькасці наркаманаў і маштабаў абарачэння наркотыкаў.** Напрыклад, зараз на лячэнні знаходзіцца больш за 7 тысячаў наркаманаў, а колькасць сканфіскаваных наркатычных рэчываў узрасла ў 50 разоў.

■ **У гэтым годзе на Магілёўшчыне нарадзілася 6.397 дзяцей, тады як наогул насельніцтва вобласці скарацілася на 10.696 чалавек.** Пры гэтым пятая частка памерлых была ў працаздольным узросце. У цэлым смяротнасць тут пераўзыходзіць нараджальнасць на 40%.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Паважаныя чытачы!**
**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску**
**Вы можаце падпісацца ў любы час, газета будзе прыходзіць да Вас з першага дня наступнага месяца.**

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1045

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Югаславія: дэмакратыя перамагла дыктатуру

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Развіццё падзеяў у Югаславіі прыняло мірны накірунак. Слабадан Мілошавіч вырашыў не змагацца з Ваіславам Каштуніцам і павіншаваў яго з перамогай на прэзідэнцкіх выбарах. Галоўную ролю ў ягоным рашэнні саступіць адыграла пазіцыя югаслаўскай арміі — адмова ваяваць з уласным народам. Агенцтва BBC паведаміла, што ў ноч з 5 на 6 кастрычніка вышэйшыя афіцэры арміі Югаславіі націскулі на С.Мілошавіча і прымусілі яго сустрэцца з В.Каштуніцам, каб прызнаць сваю паразу.**



У суботу на сумесным пасяджэнні дзвюх палатаў Скупшчыны Ваіслаў Каштуніца прынёс прысягу прэзідэнта Саюзнай рэспублікі Югаславія, скончыўшы 13-гадовую эпоху праўлення С.Мілошавіча. «Абавязваюся паважаць і рэалізоўваць палажэнні Канстытуцыі і законаў, абараняць суверэнітэт, незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, гарантаваць свабоду і правы чалавека і грамадзянаў, сумленна і адказна рэалізоўваць правы і абавязкі Саюзнай рэспублікі Югаславія», — такі тэкст прысягі зачытаў новы прэзідэнт. На цырымоніі прысутнічалі шматлікія госці, дыпламаты, палітыкі і патрыярх Сербскай праваслаўнай царквы, якая ад пачатку падтрымлівала В.Каштуніцу.

Прэзідэнт адзначыў, што для Югаславіі пачынаецца новая эра, і яна «з годнасцю вяртаецца ў міжнародную супольнасць, у сям'ю блізкіх дэмакратычных народаў». Сярод першапачатковых задачаў былі названыя нармалізацыя стасункаў паміж Сербіяй і Чарнагорыяй — дзвюма рэспублікамі, што ўтвараюць Югаславію, вырашэнне праблемы Косава, вяртанне паўнапраўнага сяброўства Югаславіі ў міжнароднай супольнасці.

Першым рашэннем новага прэзідэнта адразу пасля інаўгурацыі стала зняцце эканамічнай блакады з Чарнагорыі, якая была ўведзеная ўрадам С.Мілошавіча два гады таму.

Практычна ўсе краіны павіталі мірную змену ўлады ў Югаславіі. Толькі Аляксандр Лукашэнка ў пятніцу назваў «абсурдам» тое, што Ваіслаў Каштуніца «абвясціў сам сябе прэзідэнтам Югаславіі». Як сведчыць агенцтва БелТА, А.Лукашэнка заявіў: «Чалавек ад апазіцыі не можа на законных падставах абвяшчаць сябе прэзідэнтам краіны». І дадаў, што, на ягоную думку, цывілізаваны народ не стане выганяць кіраўніка сваёй дзяржавы. Відаць, прымярыў на сябе лёс югаслаўскага кіраўніка.

Захад вырашыў, што адхіленне С.Мілошавіча ад улады вартае кампенсацыі. Учора падчас сустрэчы ў Люксембургу міністраў замежных справаў краінаў-чальцоў Еўрасаюза разглядалася рашэнне аб зняцці з Югаславіі эканамічных санкцыяў, накладзеных некалькі гадоў таму. Было адменена эмбарга на імпарт нафты ў Югаславію, а таксама адноўленыя міжнародныя авіярэйсы ў Бялград і з Бялграда.

Надзвычай мірны пераход улады ў Югаславіі выклікаў пэўную эйфарыю сярод жыхароў краіны. Аднак гэта не вырашыла шматлікіх эканамічных праблемаў.

Дарадца новага прэзідэнта Югаславіі Младжан Дынкіч паведаміў, што новы ўрад краіны будзе прасіць у міжнародных фінансавых арганізацыяў дапамогу ў памеры 7 мільярдаў долараў на аднаўленне эканомікі Югаславіі, у тым ліку – 1 мільярд на стабілізацыю нацыянальнай валюты і скарачэнне дэфіцыту бюджэту. На працягу наступных пяці гадоў спатрэбіцца яшчэ каля 6 мільярдаў USD на рэфармаванне падатковай сістэмы, увядзенне нацыянальнай валюты, курс якой вызначаўся б на падставе курсаў замежных валютаў, а таксама на ўвядзенне бівалютнай грашовай сістэмы.

Напярэдадні Люксембургскага саміта міністр замежных справаў Германіі Ёшка Фішар заявіў пра адмысловую праграму дапамогі Югаславіі з боку Еўрасаюза. Па словах Ё.Фішара, памеры гэтай дапамогі будуць «даволі істотнымі», паведаміла радыёстанцыя «Нямецкая хваля». Называлася лічба ад 500 мільёнаў да 1 мільярда нямецкіх марак (220 і 440 мільёнаў долараў адпаведна).

Няпэўным застаецца лёс Слабадана Мілошавіча. У сваім выступленні па бялградскім тэлебачанні ён паведаміў, што збіраецца і далей займацца палітыкай – за ім засталася пасада лідэра Сацыялістычнай партыі Югаславіі. С.Мілошавіч таксама выказаў спадзяванне ўдзельнічаць у наступных выбарах і перамагчы.

Выехаць за мяжу ў яго наўрад ці атрымаецца – у суседніх краінах яго па-ранейшаму расшукваюць як ваеннага злачынца, вінаватага ў развязванні вайны і смерці соцень мірных грамадзянаў. Тэлекампанія *CNN* са спасылкай на крыніцы ў амерыканскай разведцы паведаміла, што разведслужбы ЗША пры дапамозе касмічных апаратаў і іншых сродкаў пільна сочаць за тым, каб Слабадан Мілошавіч не ўцёк з Югаславіі.

Ваіслаў Каштуніца паабяцаў, што не будзе пераследаваць С.Мілошавіча і ўсю ягоную сям'ю, а таксама «зробіць усё магчымае, каб яго не пераследавалі спецслужбы іншых краінаў». Так што на тэрыторыі роднай краіны былы дыктатар зможа пачуваць сябе ў пэўнай бяспецы — зрэшты, да таго часу, пакуль не стане на шляху новай улады. І, дарэчы, узнагароду ў памеры да 5 мільёнаў долараў, абвяшчаную за спрыянне ў дастаўцы С.Мілошавіча ў Гаагскі Міжнародны вайсковы трыбунал па былой Югаславіі, ніхто не адмяняў.

Тым часам, сын былога прэзідэнта Марка Мілошавіч палічыў за лепшае пакінуць Югаславію і разам з сям'ёй вылецеў у суботу ў Маскву, да дзядзькі Барыслава, які пакуль працуе там амбасадарам. Малодшы Мілошавіч валодае ў Югаславіі сапраўднай бізнес-імперыяй – фешэнебельнай парфумернай крамай у Бялградзе і забаўляльным комплексам на радзіме бацькі – у горадзе Пазарэвац. М.Мілошавіч быў надзелены бязмежнымі паўнамоцтвамі, і гэта зрабіла яго адным з найгалоўных ворагаў сербаў.

Перад Ваіславам Каштуніцам засталася яшчэ адна вельмі істотная праблема – праблема Чарнагорыі. Як вядома, сам ён быў абраны прэзідэнтам Саюзнай рэспублікі Югаславія, у якую ўваходзяць Сербія і Чарнагорыя. Аднак гэтая маленькая рэспубліка дамагаецца незалежнасці ад Югаславіі. Яе прэзідэнт Міла Джуканавіч абвясціў, што не прызнае Ваіслава Каштуніцу прэзідэнтам Югаславіі – але толькі лідэрам дэмакратычнай Сербіі.

М.Джуканавіч заявіў, што цяпер для Чарнагорыі час падумаць пра ўласную незалежнасць. Ён прапанаваў два варыянты вызначэння статусу Чарнагорскай Рэспублікі: або асаблівы статус і раўнапраўная аснова, або поўная незалежнасць Чарнагорыі.

У той жа час Ваіслаў Каштуніца заяўляе, што асноўным прыярытэтам для яго застаецца тэрытарыяльная цэласнасць Югаслаўскай федэрацыі, а гэта значыць – Чарнагорыя мусіць застацца ў складзе Югаславіі, а край Косава мусіць зноў стаць сербскім. ■



# Польшча выбрала прэзідэнта

Мечыслаў МАЗОВЯК

**У мінулую нядзелю ў Польшчы прайшлі выбары. 29 мільёнаў палякаў выбіралі прэзідэнта. Паводле папярэдніх дадзеных, яшчэ ў першым туры з вялікім адрывам ад канкурэнтаў перамог цяперашні кіраўнік краіны сацыял-дэмакрат Аляксандр Квасьнеўскі. Ён набраў 55% галасоў выбаршчыкаў.**



Першыя віншаванні Аляксандр Квасьнеўскі атрымаў ад жонкі Іяланты

На другім месцы – беспартыйны бізнесмен Анджэй Аляхоўскі, за яго аддалі свае галасы 18% выбаршчыкаў. Кандыдат ад правых – лідэр аб'яднання *Solidarnosc* Мар'ян Кшаклеўскі атрымаў каля 14% галасоў. Астатнія 10 кандыдатаў сабралі менш за 10% галасоў. Былога прэзідэнта Польшчы Леха Валенсу падтрымалі 0,9% палякаў – тады як пяць гадоў таму ён набраў усяго на 10.000 галасоў менш за А.Квасьнеўскага.

У сваіх перадвыбарчых выступленнях Аляксандр Квасьнеўскі асабліва падкрэсліваў, што Польшча вартая стаць чальцом Еўрасаюза і што ён асабіста зробіць усё магчымае для гэтага.

Правыя абвінавачвалі прэзідэнта ў здзеках над Папам Рымскім Янам Паўлам II, а таксама ў злоўжыванні алкагольнымі напоямі падчас замежных візітаў. Тым не менш, за апошні тыдзень ягоны рэйтынг толькі ўзняўся.

Інстытут прэзідэнцтва ўведзены ў Польшчы ў 1989 годзе. Прэзідэнт Рэспублікі Польшча з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, вярхоўным галоўнакамандуючым, найвышэйшым прадстаўніком краіны на міжнароднай арэне. У паўнамоцтвы прэзідэнта ўваходзіць прызначэнне тэрміну выбараў у Сейм і Сенат, прызначэнне прэм'ер-міністра, старшыні Вярхоўнага суда, начальніка Генеральнага штаба Войска Польскага, ён мае права абвяшчаць надзвычайнае становішча ў краіне. Прэзідэнт абіраецца на падставе ўсеагульнага роўнага і прамога выбарчага права шляхам тайнага галасавання тэрмінам на пяць гадоў. Адна і тая ж асоба можа быць прэзідэнтам не больш за два тэрміны запар.

Першым прэзідэнтам Польшчы быў старшыня Дзяржаўнага савета Польскай народнай рэспублікі Войцэх Ярузэльскі, у 1990 годзе яго змяніў Лех Валенса. З 1995 года Польшчай кіруе Аляксандр Квасьнеўскі.

Цікава, што кожны кандыдат у прэзідэнты разам з іншымі дакументамі мусіць прадставіць у Дзяржаўную выбарчую камісію гэтак званую «люстрацыйную заяву», якая потым перадаецца ў Люстрацыйны суд у Варшаве для праверкі – ці не супрацоўнічаў прэтэндэнт на высокую пасаду з органамі дзяржаўнай бяспекі камуністычнага рэжыму. Закон пра люстрацыю вышэйшай наменклатуры, прыняты ў жніўні 1997 года, прадугледжвае адхіленне на 10 гадоў ад палітычнай дзейнасці і дзяржаўнай службы тых, хто схаваў сваё супрацоўніцтва з спецслужбамі. Адзін з кандыдатаў – Анджэй Аляхоўскі – шчыра прызнаўся, што ў 70-я гады працаваў на эканамічную выведку. У дачыненні да Аляксандра Квасьнеўскага і Леха Валенсы былі ўзбуджаныя справы па падазрэнні, што яны таксама патаемна супрацоўнічалі з дзяржбяспекай, аднак цяпер гэтыя падазрэнні зняты.

Афіцыйныя вынікі выбараў стануць вядомыя сёння. ■

# ...А Літва – парламент

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Літва ў нядзелю абірала парламент. На 141 месца ў Сейме прэтэндавалі 1.500 кандыдатаў. Больш за ўсё галасоў набралі літоўскія левыя. Сацыял-дэмакратычная кааліцыя на чале з былым прэзідэнтам Альгірдасам Бразаўскасам набрала, паводле папярэдніх вынікаў, 33% галасоў.**



Альгірдас Бразаўскас на выбарчым участку

За імі – левацэнтрысцкі «Новы саюз» са скандальна вядомым адвакатам Артурасам Паўлаўскасам (21%), правацэнтрысцкі «Ліберальны саюз» (11% галасоў) і Сялянская партыя (10%). Кансерватары, якія цяпер кіруюць краінай, здолелі атрымаць толькі 7% галасоў.

Перамога левых сілаў відавочная, аднак ніводная партыя не будзе мець дастатковай колькасці галасоў у Сейме, каб сфармаваць свой урад. Таму новы ўрад будзе кааліцыйным, а кааліцыя гэтая будзе ўтварацца ў ходзе доўгіх перамоваў.

Паводле існуючага заканадаўства, у Літве выбары праходзяць па прапарцыйна-мажарытарнай сістэме – 70 дэпутатаў абіраюцца па партыйных спісах, а 71 дэпутат – у аднамандатных акругах. Гэта ўжо трэцця парламенцкія выбары ў Літве за 10 гадоў незалежнасці. Цікава, што кожны раз адбывалася змена левых на правых, а правых на левых, адак пры гэтым на шляху развіцця Літвы не адбывалася істотных змяненняў.

Усяго ў выбарах узялі ўдзел 55% выбаршчыкаў. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Звычайны беларус

## Сёння вядомаму беларускаму пісьменніку Кастусю Тарасаву спаўняецца 60 гадоў. Напярэдадні юбілею карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ ўзяла ў пісьменніка інтэрв'ю

***— Спадар Кастусь, з даведнікаў ведаю пра ваш «жыццёвы шлях», што вы працавалі слесарам, у геолагаразведачнай экспедыцыі, на мінскім гіпсавым заводзе, вучыліся ў Політэхнічным інстытуце, але прафесійна заняліся журналістыкай і літаратурай. Як адбыўся гэтакі паварот?***

— Не маю рацыянальнага тлумачэння. Так захацелася. На пачатку «жыццёвы шлях» праходзіў як у той броунаўскай малекулы: агулам у маладосці я змяніў 17 месцаў працы, усюды хутка прыходзіла адчуванне тупіка. А калі па начах пісаў – адчуваў сябе шчаслівым. Мне пашанцавала, што напісанае аказалася цікавым і для іншых. Гэта мая ўдача.

***— Вашымі кнігамі «Памяць пра легенды», «Пагоня на Грунвальд», «Тры жыцці княгіні Рагнеды» зачытвалася моладзь, людзі старэйшага веку пад уплывам гэтых твораў пачыналі пераасэнсоўваць прышчэпленыя школай погляды на беларускую даўніну. Гісторык Міхась Ткачоў узнёсла напісаў, што вы «рызыкнулі сваім мастацкім словам узарваць дзірван нашай сярэдневяковай гісторыі». Як склалася, што вы захапіліся гістарычным жанрам?***

— Першая кніга, якую я прачытаў, была «Востраў скарбаў». Там спалучаныя гісторыя, дэтэктыў і прыгоды. Мне было чатыры гады, калі вобразы Стывенсона запалі мне ў душу. Думаю, з таго часу падсвядома марыў пісаць дэтэктывы і пра гісторыю. Мая першая аповесць – гістарычна-дэтэктыўная. Калі я над ёй працаваў, шмат прыйшлося пачытаць пра паўстанне 1863 года. Я быў уражаны, што нічога пра той трагічны час не ведаў. Сёння існуе багатая бібліятэка кніг па беларускай гісторыі, створаных і надрукаваных за апошнія 15 гадоў. У мае маладыя гады ўсё гэта ці не існавала, ці было знішчанае бальшавіцкай інквізіцыяй. Нават «Кароткі нарыс беларускай гісторыі» Вацлава Ластоўскага я прачытаў толькі напрыканцы 80-х гадоў. Тыя кнігі па гісторыі, што былі даступныя, выклікалі сваім зместам нязгоду. Было відавочна, што напісанае ў іх няпраўда ці наогул хлусня. Кожны, хто крытычна пачынаў займацца роднай гісторыяй, бачыў, на якія народныя трагедыі нас прымушалі забыцца, ды і цяпер прымушаюць сённяшнія ўлады.





***— Прыкладам, на якія?***

— Нядаўна я выдаў кнігу «Крыж памяці». Гэта кароткі спіс войнаў, паўстанняў, катастрофаў, якія спазнала Беларусь за тысячагоддзе сваёй гісторыі, — тысяча крывавых падзеяў. Быццам кола, якое кацілася тысячу гадоў па Беларусі, паўтараючы вынішчэнне тых самых гарадоў і вёсак. 3 ліпеня мы святкуем вызваленне Мінска ад нямецкіх захопнікаў. Я быў здзіўлены, калі ў хроніцы прачытаў, што ў 1660 годзе менавіта 3 ліпеня Мінск быў вызвалены ад маскоўскіх захопнікаў. У нас тая вайна замоўчваецца. Ні помніка, ні крыжа, хоць загінула болей за 2 мільёны людзей. Ні крыжа, ні помніка ўлады не паставілі паўстанцам Каліноўскага. Такі пералік можа быць даўгі. Калі б боль за пакуты продкаў, гонар за іх мужнасць выхоўвалася ў душы кожнага беларуса з маленства, мы адчувалі б сябе інакш на белым свеце. Бо цяпер дзеля адраджэння расійскай імперыі мы зноў трапляем на задворкі Еўропы.

***— У колішнім ЦК кампартыі Беларусі вашы кнігі ацэньвалі як нацыяналістычныя, а партыйная прэса абвінавачвала вас у фальсіфікацыі гісторыі. Якія вынікалі з гэтага непрыемнасці?***

— Значных не было. Былі перашкоды з працаўладкаваннем. Сёння пра гэта смешна ўзгадваць, калі шмат дастойных людзей асуджаны да зняволення. Шчыра кажучы, мая кніга «Памяць пра легенды» выйшла дзякуючы дапамозе загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Івана Іванавіча Антановіча. Шмат людзей дапамагала гэтаму выданню ўбачыць свет, але без заступніцтва спадара Антановіча яе не было б. Максім Лужанін пайшоў да Антановіча і занёс яму экземпляр рукапісу. Сумняваюся, што Іван Іванавіч яго прачытаў, але ягоны званок у Дзяржкамдрук аказаўся вырашальным. Таму я высока стаўлю ролю асобы ў гісторыі. Ідэалагічная крытыка пайшла па лініі іншага аддзела ЦК, але пасля гэта ўжо не мела істотнага значэння.

***— Вашы кнігі разбураюць міфы аб тым, што беларусы спрадвеку ціхмяныя, пакорлівыя, што яны не былі захопнікамі, а таму маюць адметны ад іншых народаў шлях і лёс, сваё высакароднае прызначэнне, а можа, і місію трываць пакуты...***

—Беларусь – такая самая па змесце гісторыі, як і ўсе іншыя еўрапейскія краіны. Былі часы, калі беларуская дзяржава пашырала межы на захад і на ўсход. Некалькі стратэгічных памылак улады знішчылі шанец на дзяржаўнае развіццё, і больш моцныя суседзі з абодвух бакоў пачалі рваць Беларусь на часткі. Няма ніякай асаблівай якасці, якая б сведчыла, што мы – лепшыя за іх, што ў нас нейкія лепшага гатунку ідэалы, што мы, увасабляючы свае ідэалы ў жыцці, вырашылі знікнуць з гэтага свету як народ, стаць, прыкладам, рускімі, што ў духоўным плане зараз мае на мэце зрабіць наша выканаўчая ўлада.

***— А у вас як у пісьменніка ёсць ідэалы?***

— Пісьменніцкі занятак мае падмуркам веру ў ідэальнае: у чалавечае высакародства, у гістарычную справядлівасць, у мужнасць народа, які не дасць сябе знішчыць. Ідэалы — гэта жыццятворная мара пра будучыню. На ёй трымаецца гераічная чыннасць людзей. Калі грамадства не будзе ставіць перад сабой высокія мэты, адпаведныя высокім ідэалам, яно бесперспектыўнае. Аднак заўжды знаходзіцца багата асобаў, якія паразітуюць на ідэальных уяўленнях народа, прыкрываючы асабістую прагу ўлады. Сённяшнія ўлады стараюцца пазбавіць грамадства высокай мэты, прапануючы сурагаты з гістарычнага сметніка. Ну чаго, прыкладам, дабіваецца ўлада, ствараючы «ідэалагічную вертыкаль»? Дзе яшчэ ў Еўропе такая вертыкаль існуе, хто яшчэ выдаткуе народныя грошы на мадэрнізацыю цэнзуры ды інквізіцыі? Зразумела, што гэтая вертыкаль не здолее доўга тлуміць людзям галовы, бо ідэалогія правяраецца сацыяльным становішчам, а яно ў нас самага нізкага кшталту на кантыненце. Я не магу не верыць, што нашы людзі ўсёй бальшынёй нарэшце асэнсуюць, што свабода сама сабою з неба не звальваецца. Яе трэба адстойваць. Свабода – надта дарагая рэч, і за яе дорага плацяць. Хто чакае яе ў падарунак — будзе змушаны паслухмяна выконваць чужынскую волю.

***— Улада — скразная тэма вашай аповесці «Апошняе каханне князя Міндоўга». Гэта не злучанае з абставінамі цяперашняга дня?***

— Да любой улады варта ставіцца крытычна і апазіцыйна. Простаму чалавеку чакаць ад улады нічога добрага не варта. Іншая справа, што без уладаў чынавенства жыццё грамадства немагчымае, як немагчымы горад без камунальнай службы. У аповесці пра Міндоўга мяне, па праўдзе кажучы, роля ўлады цікавіла менш за ўсё. Тым болей там няма паралеляў з сённяшнім днём. Бягучай палітыкай павінна займацца публіцыстыка. Аповесці пішуцца доўга і ніколі не пішуцца дзеля нейкай зашыфраванай палемікі з урадам ці ўладамі. Нецікава марнаваць на гэта свой час. Сёння гэтая ўлада ёсць, заўтра – не будзе. З гэтай прычыны большасць твораў так званай «сучаснай літаратуры», напісаных 20—30 гадоў таму, цалкам аказалася за межамі чытацкай цікаўнасці. Трэба мець талент, каб стварыць сучасны сюжэт, абстрагаваны ад рэчаіснасці, надаць яму пэўную незалежнасць у часе. Я гэтага не ўмею. У маёй гістарычнай аповесці галоўнае не ўлада, а сутыкненне характараў, якое набывае трагічную развязку. Людзі моцных жаданняў не баяцца рызыкі, выпрабоўваюць свой і чужы лёс. Што з гэтага вынікае, які вір здольныя яны ўтварыць – вось што мяне цікавіла. А што адшукае там чытач, гэта ўжо залежыць ад яго настрою і жыццёвага вопыту.

***— Вы нарадзіліся ў Мінску, і датычна геаграфіі ваш жыццёвы вопыт звязаны з Мінскам? Як, на ваш позірк, змяніўся горад?***

— Дом, дзе я нарадзіўся, стаяў на вуліцы Чырвонай. Яго на трэці дзень вайны зруйнавала бомба. Зараз на тым месцы корпус радыёзавода. Ні следу ад дома, ад садка, які яго абкружаў, ад таго акопа, які ашчадзіў нашыя жыцці. У вайну мы жылі ў доме на вул. Маркса, дзе спуск да гарадскога парку. Зараз на гэтым месцы стаіць дзевяціэтажка. Мой першы здымак быў зроблены праз тыдзень пасля вызвалення Мінска. Мама пашыла мне на гэтае свята касцюмчык з сотні ласкуткоў, бо не было тканіны. У гэтым касцюмчыку на тым спуску мяне сфатаграфавалі. Зараз на старых вуліцах мала што захавалася ад таго горада, які памятаю з гадоў юнацтва. Той мой горад знік. Ці перароблены так, што яго не пазнаць. Думаю, што так сябе пачуваюць усе карэнныя мінчукі. І наогул так сябе пачуваюць ва ўсіх нашых гарадах. Не ведаю ніводнага выпадку, калі б пераробкі прынеслі прыгажосць і ўтульнасць. У гэтых адносінах мой вопыт не лепшае з таго, што дало мне жыццё.

***— Ці бывае ў вас настальгія аб мінулых гадах?***

— Часам каля дома на Маскоўскай вуліцы, дзе прайшло маё пасляваеннае дзяцінства, чую я даўнія галасы маіх сяброў, і хочацца мне, як некалі ранкам, гукнуць ім, выклікаючы на двор: «Віця!», «Алік!», «Генка!». Толькі вось няма ўжо каго зваць. ■

**Інтэрв'ю брала**
**Таццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ**

# Атручаны тэатр

**Кірэй МАНУЙЛА**

**Трохі няўдала распачаўся новы сезон у мінскім Вялікім тэатры. Але справа зусім не ў тым, што ў адных з лепшых у Еўропе оперных і балетных калектываў атрымаліся правальныя спектаклі ці збіраюцца напаўпустыя залы. З гэтым усё як мае быць – проста на тэатр абрынуліся досыць недарэчныя побытавыя праблемы.**

На мінулым тыдні з'явіліся чуткі, што ў Оперным здарылася нейкая аварыя з уцечкай ртуці, у выніку чаго ў будынку тэатра падвысіўся радыяцыйны фон. Дазнацца праўды ў вахцёраў і касіраў тэатра не ўдалося. Тыя рабілі пукатыя вочы, адварочваліся і адказвалі, што «першы раз такое ад вас чуем». Аднак кіраўніцтва Опернага тэатра факта аварыйнага выпадку не адпрэчвала: уцечка ртуці сапраўды мела месца.

Гэта адбылося падчас прыбірання з аднаго з тэатральных складаў адпрацаваўшых сваё неонавых лямпаў. Трос, на якім падымаліся скрыні з імі, абарваўся – і лямпы разбіліся. Раструшчылася 80 штук. Дарэчы, гэтыя ўтрымліваючыя ртуць лямпы лічацца дастаткова шкоднымі і больш за тое – экалагічна небяспечнымі, таму іх нават нельга проста выкідаць на вуліцу, а трэба аддаваць на адмысловую ўтылізацыю.

Лямпы, што цікава, пабіліся яшчэ 18 верасня, але спецыяльныя службы міністэрства па надзвычайных сітуацыях і санэпідэмстанцыя былі выклікана чамусьці толькі праз тыдзень – 26 верасня. Яны зафіксавалі, што на складзе, дзе захоўваліся лямпы, і ў бойлернай тэатра ўзровень ртутнага фону значна павялічыўся і стаў у 7 разоў вышэй за норму. Пры гэтым, як даводзіць дырэктар творчага аб'яднання тэатра оперы і балета Анатоль Кірыенка, астатнія памяшканні, у тым ліку сцэна і глядзельная зала, ад ртутных пароў не пацярпелі.

Зараз склад і бойлерная для ліквідацыі наступстваў уцечкі ртуці апрацоўваюцца хларыдам жалеза. Дырэктар оперы Сяргей Картэс, які называе дадзены выпадак праявай «нашага адвечнага гармідару», кажа, што гэтая хімічная працэдура праводзіцца таксама над часткай дэкарацыяў да оперных пастановак «Травіята» і «Іаланта», якія знаходзіліся на атручаным складзе.

Разам з тым у Оперным даводзяць, што сезон перапыняцца не будзе, бо аніякай небяспекі для здароўя гледачоў і артыстаў абсалютна няма. Тым не менш пра інцыдэнт тут гавораць неахвотна. Кажуць, што баяцца такім чынам адпудзіць людзей. Яно слушна: беларусы ўжо даўно прызвычаіліся, што ў нашай краіне дыму без агню звычайна не бывае. ■

# Новая «Вольная сцэна»

**Кірыла ПАЗНЯК**

**Напрыканцы мінулага тыдня, можна лічыць, завяршылася скандальная гісторыя вакол Рэспубліканскага тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

5 кастрычніка на адкрыцці новага тэатральнага сезона пасля спектакля «Блазан» Валерый Мазынскі заявіў, што пакідае тэатр. Таксама за рэжысёрам сышла прыкладна палова трупы, але не выключана, што ў будучым сыдуць амаль усе. Яны збіраюцца арганізаваць новы тэатр пад старой назвай «Вольная сцэна» (у 1996 годзе міністр культуры Аляксандр Сасноўскі забараніў так афіцыйна называцца тэатру беларускай драматургіі). Мяркуецца, што гэта будзе тэатр-студыя пры Саюзе тэатральных дзеячаў.

Акцёры ўжо напісалі заявы на звальненне, але ўсе кастрычніцкія спектаклі, на якія распрададзеныя квіткі, дзеля гледачоў дайграюць. У вось ужо ў лістападзе тэатр беларускай драматургіі спектакляў хутчэй за ўсё даваць не будзе. Проста іх не будзе каму граць: тыя, хто пакідае тэатр, занятыя амаль ва ўсіх пастаноўках. Разам з тым невядома, што з рэпертуару зможа забраць сабе новая «Вольная сцэна». Вакол аўтарскіх правоў тут яшчэ мусяць разгарнуцца значныя спрэчкі.

Наогул Валерыя Мазынскага, які, дарэчы, цягам усяго канфлікту не выключаў магчымасці зладзіць прыватны тэатр, складанасцяў чакае цэлая процьма: знайсці грошы на арэнду сцэны ці хоць бы спярша атрымаць ад міністэрства культуры ліцэнзію на стварэнне антрэпрызнага тэатра. Калі толькі мінкульт яшчэ раней пад такім дэмаршавым ціскам не скасуе свае рашэнні па лёсе Рэспубліканскага тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі. Бо зараз сітуацыя выглядае менавіта так, што міністэрства культуры разваліла гэты унікальны тэатр. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

